# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### «МАЛАНКА — 1» І «МАС»

4 красавіка 1972 года ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск адной ракетай-носьбітам чаргова спадарожніка сувязі «Маланка—1» і французскага малога аўтаматычнага спадарожніка «МАС».

Спадарожнік сувязі «Маланка — 1» прызначаны для забеспячэння эксплуатацыі сістэмы далёкай тэлефонна-тэлеграфнай радыёсувязі, а таксама перадачы праграм цэнтральнага тэлебачання СССР на пункты сеткі «Арбіта», размешчаныя ў раёнах Крайняй Поўначы, Сібіры, Далёкага Усходу і Сярэдняй Азіі.

Французскі спадарожнік «МАС» прызначаны для даследавання характарыстык розных сонечных батарэй ва ўмовах касмічнай прасторы.

Запуск спадарожніка «МАС» ажыццёўлены ў адпаведнасці з праграмай супрацоўніцтва паміж СССР і Францыяй у галіне даследавання і выкарыстання касмічнай прасторы ў мірных мэтах.

### ВЕТЭРАНЫ В'ЕТНАМА

ЗША не згортваюць вайну ў Індакітаі, яны ўзмацняюць яе. Толькі ў студзені гэтага года ўрад ЗША накіраваў у Індакітай дадаткова 42 бамбардзіроўшчыкі «В—52», два авіяносцы, некалькі эскадрылляў знішчальнікаў - бамбардзіроўшчыкаў. Колькасць бомб, скінутых на зямлю Індакітая ў студзені, узрасла прынамсі на 50 працэнтаў, гаворыцца ў заяве арганізацыі «Ветэраны В'етнама — супраць вайны».

Нават афіцыйныя даныя Пентагона сцвярджаюць, што толькі за першыя месяцы гэтага года авіяцыя ЗША зрабіла 90 паветраных налётаў на Паўночны В'етнам. У 1971 годзе на Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам амерыканскія паветраныя піраты нападалі 108 разоў.

*

Прэзідэнт Ніксан, прыступаючы да выбарчай кампаніі, усё паставіў на т.зв. в'етнамізацыю вайны. Пачаў расказваць свайму народу, што вядзенне вайны паступова будзе перадавацца сайгонскаму ўраду. Тым часам аказалася, што амерыканскія войскі яшчэ ў В'етнаме, а ўжо сайгонскія войскі ўгінаюцца пад агнём вялікага партызанскага наступлення. Поспехі партызан Паўднёвага В'етнама сталі настолькі вялікімі і нечаканымі, што аб іх загаварыў увесь свет.

### З МЭТАЙ НАРМАЛІЗАЦЫІ АДНОСІН

Індыя імкнецца да нармалізацыі адносін з Пакістанам, падкрэсліла прэм'ер-міністр Індзіра Гандзі. Паведаміла яна, што цяпер устаноўлены прамыя кантакты паміж Індыяй і Пакістанам з мэтай правядзення перагавораў па пытанню аб нармалізацыі інда-пакістанскіх адносін. Адносіны супрацоўніцтва паміж Пакістанам, Індыяй і Бангладэш, адзначыла Гандзі, маглі б служыць «крыніцай сілы» для кожнага з гэтых краін.

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ...

...што ад пачатку эпохі матарызацыі да канца мінулага года ў дарожных выпадках на свеце загінула 20 мільёнаў чалавек? (АК)

## БССР

### ДА 90-ГОДДЗЯ НАРОДНЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Грамадскасць БССР рыхтуецца шырока адзначыць 90-годдзе з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Між іншым, ім прызначаецца сёлетняе выданне штогадовага альманаха «Дзень паэзіі».

Група беларускіх паэтаў выступіла з прапановай, каб у сувязі з купалаўскім 90-годдзем устанавіць пастаяннае «Свята паэзіі», якое адзначалася б у другую нядзелю ліпеня. «Купалаўскае свята паэзіі, — пішуць яны, — павінна стаць сапраўды народным, жывым, карнавальным, кірмашовым — разнастайным і багатым па змесце».

### ЛЕПШЫЯ П'ЕСЫ

Ужо вядомы вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшыя аднаактавыя п'есы. Між іншым, прэміі на гэтым конкурсе атрымалі: Л. Гаўрылкін, І. Шамякін, Н. Гілевіч і Ул. Багдановіч.

### УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ Б. ТАРАШКЕВІЧА

У гарадскім пасёлку Радашковічы на вуліцы імя Тарашкевіча, на доме, дзе жыў і працаваў вядомы беларускі вучоны і грамадскі дзеяч, адкрыта мемарыяльная дошка. На ёй напісана: «Тут у 1923 — 1931 г.г. жыў і працаваў вядомы вучоны, актыўны ўдзельнік вызваленчага руху працоўных Заходняй Беларусі, акадэмік АН БССР Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч». Такім чынам была ўшанавана 80 гадавіна з дня нараджэння шырока вядомага дзеяча і арганізатара беларускай «Грамады». На мітынгу, які адбыўся з гэтай нагоды, выступіла жонка Браніслава Тарашкевіча — Вера Андрэеўна.

### ІМЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Па рашэнню Савета Міністраў БССР сярэдняя школа ў пасёлку Халопенічы Мінскай вобласці атрымала імя выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча.

### ВЁСКА ВЕРЦЯЛІШКІ

Літаратурна-грамадскі часопіс «Маладосць» змясціў вельмі цікавы фотарэпартаж пра яшчэ болей цікавую вёску Верцялішкі, што на Гродзеншчыне. «Па калгасных вуліцах, — чытаем там, — зграбныя двухпавярховыя домікі — катэджы. Цэнтр уяўляе сабой цудоўны ансамбль будынкаў, пабудаваных з улікам сучасных запатрабаванняў архітэктуры. Кінатэатр, рэстаран, сталовая, магазіны. (...) Інакш кажучы, гэта заўтрашні дзень вёскі — кожнай калгаснай вёскі». Калгас «Прагрэс», які змяшчаецца менавіта ў Верцялішках, у 1971 годзе дабіўся 3 мільёнаў 342 тысяч чыстага прыбытку.

### НОВЫ ЗАВОД

На паўднёвай ускраіне горада Гродна пачалося ўзвядзенне буйнейшага ў Беларусі завода сінтэтычнага валакна. Першая чарга прадпрыемства павінна ўступіць у строй ужо ў канцы 1974 года. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

5 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім разгледжана інфармацыя Камісіі планавання пры Радзе Міністраў на тэму дадатковых прадукцыйных задач. Палітбюро дало высокую ацэнку ўсім рабочым калектывам, якія ў адказ на пісьмо Сакратарыята і Прэзідыума ўрада прынялі абавязацельствы — даць дадатковай прадукцыі на суму больш 20 мільярдаў злотых. У чарговым пункце пасяджэння быў абмеркаван план працы Палітбюро і Сакратарыята на II квартал г.г.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

7 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім быў абмеркаван праект пастановы аб правах і абавязках настаўнікаў. Мэтай гэтай пастановы з'яўляецца павышэнне грамадскага рангу прафесіі настаўніка, а таксама паляпшэнне сацыяльна - бытавых умоў настаўнікаў. У далейшым Прэзідыум урада разгледзеў справу абніжэння платы пры продажы дэвізаў для выезду ў краіны СЭУ і справы даследаванняў сацыяльных умоў людзей.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

7 красавіка г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч правялі сустрэчу з дэлегацыяй работнікаў службы здароўя. Інфармавалі яны аб тым, што будзе зроблена ў бягучай пяцігодцы ў напрамку паляпшэння апекі над хворымі і паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў работнікаў службы здароўя. Затым адбылася дыскусія. На заканчэнне візіту І сакратар ЦК пажадаў усім работнікам службы здароўя далейшых поспехаў у працы і ў асабістым жыцці.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ЛЯСНОЙ СЛУЖБЫ У П. ЯРАШЭВІЧА

У сувязі са святкаваннем Дня лясніка старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч прыняў у сябе дэлегацыю ляснікоў і прадстаўнікоў дрэваапрацоўчай прамысловасці. 17 найбольш заслужаных працаўнікоў лясной гаспадаркі і драўніннай прамысловасці атрымала дзяржаўныя ўзнагароды.

### ПЛЕНУМЫ ВК ПАРП

Катавіцы. 7 красавіка г.г. адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП у Катавіцах. Пленум абмеркаваў праблемы, звязаныя з паляпшэннем умоў працы і жыцця жанчын у Катавіцкім ваяводстве, а таксама справы, звязаныя з выхаваўчымі функцыямі сям'і.

Зялёная Гура. Пленум ВК ПАРП у Зялёнай Гуры прысвячаўся праграме пабудовы кватэр, на якія ў гэтым раёне нашай краіны ёсць вялікае запатрабаванне.

Варшава. Ваяводскі камітэт ПАРП у Варшаве на сваім пленарным пасяджэнні абмеркаваў справу бяспекі і грамадзянскага парадку ў Варшаўскім ваяводстве. У працы пленума ўдзельнічаў міністр унутраных спраў Веслаў Ацепка. (ця)

## ВАЯВОДСТВА

### СВЯТА СЛУЖБЫ ЗДАРОЎЯ

Урачыста адзначаўся ў нашым ваяводстве Дзень працаўніка службы здароўя. У вялікай зале Беластоцкай медыцынскай акадэміі адбылося ўрачыстае прысваенне навуковых званняў шаснаццаці дактарантам. На ўрачыстасці прысутнічалі І сакратар ВК З. Куроўскі, старшыня прэзідыума ВРН З. Спрыха і іншыя госці — прадстаўнікі ваяводскіх улад і кіраўнікі вышэйшых беластоцкіх школ. Рэктар АМ праф. др Борань, падкрэсліваючы сімвалічнасць спалучэння гэтай урачыстасці з Днём працаўніка службы здароўя, адзначыў сувязь школы з грамадскай службай здароўя.

* * *

У Дзень працаўніка службы здароўя адбылася таксама сустрэча працаўнікоў службы здароўя са старшынёй прэзідыума ВРН З. Спрыхам і намеснікам старшыні прэзідыума ВРН Р. Лазаровічам. Парушалася на сустрэчы шэраг спраў, звязаных з ваяводскай службай здароўя: грамадскае будаўніцтва вясковых пунктаў аховы здароўя, усё цяснейшая сувязь паміж бальніцамі і пунктамі, увядзенне радыётэлефонаў, сацыяльна-бытавыя ўмовы працаўнікоў службы здароўя.

З. Спрыха сардэчна павіншаваў усіх працаўнікоў службы здароўя з іх святам, падзякаваў за іх працу і пажадаў новых дасягненняў.

* * *

У Дзень працаўніка службы здароўя ў Беластоку была аддадзена ў карыстанне новая акруговая амбулаторыя (пшыходня) для чыгуначнікаў. Гэта пляцоўка службы здароўя будзе служыць чыгуначнікам і іх сем'ям усяго ўсходняга раёна варшаўскага ДОКП. У будынку змяшчаецца таксама аптэка і хуткая дапамога.

### У ВК ПАРТЫІ

Адбылося пасяджэнне экзекутывы Ваяводскага камітэта партыі, на якім была прынята перспектыўная праграма развіцця філіялу Варшаўскага універсітэта, які выпускае настаўнікаў, эканамістаў, працаўнікоў рад нарадовых і ў бліжэйшыя гады павінен стаць вялікай і навучэснай школай. Планы на 1972 — 85 гады прадбачваюць узрост колькасці студэнтаў да 8 тысяч, у тым ліку — 5 тысяч на стацыянары. Школа атрымае новыя будынкі для заняткаў і дамы студэнта.

### ПЛЕНУМ ВК ЗСЛ

8 красавіка адбыўся пленум Ваяводскага камітэта ЗСЛ. Абмяркоўваліся справы выканання пастаноў Х Ваяводскага з'езду дэлегатаў ЗСЛ. Сярод гасцей быў кіраўнік арганізацыйнага аддзела НК ЗСЛ Б. Дыляк. Пленум выбраў двух новых віцэ-прэзасаў ВК ЗСЛ — З. Спрыху і К. Дуная.

### ПЛАНЫ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАСТОКА

Нядаўна адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога камітэта партыі, на якім абмяркоўваўся план загаспадарвання горада Беластока. Вырашана, што горад будзе разбудоўвацца ў напрамку Харошчы, Лап, Васількова і Бельска. Паводле прагнозу, у 1990 годзе ў Беластоку будзе пражываць 280 тысяч жыхароў. (яч)




NIEDZIELA 16.IV.

7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Uproszczona uprawa ziemniaków". 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 „Uwaga — pożar". 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.15 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 12.00 „Jak ginął dziki zachód" — film dok. ang. („Świat, który nie może zginąć"). 12.25 Dziennik. 12.40 Ballo Delle Ingrate" — opera kameralna Claudio Monteverdi'ego. 13.15 „Przemiany". 13.45 Dla dzieci: „Ej, gorcowe gronicki" — widowisko regionalne w wyk. Dziecięcego Zespołu Regionalnego „Gronicki" z Kamienicy k/Limanowej. 14.15 „Klub Sześciu Kontynentów". 14.55 „Piórkiem i węglem". 15.25 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Bułgaria — Polska w ramach eliminacji olimpijskich (Stara Zagora). W przerwie ok. 16.10 PKF. 17.15 „Wielka gra". 18.15 „Piosenka dla Ciebie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Arsen Lupin" — film franc. 21.00 Magazyn sportowy. 21.40 „Kobieta tragiczna" („Wieczorny Uniwersytet dla starszych panów").

PONIEDZIAŁEK 17.IV.

16.00 Program dnia. 16.05 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 16.55 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Czechosłowacja — Szwecja. W przerwie ok. 17.30 Dziennik. W przerwie ok. 18.30 „Expo 70 w Osaka" — film dok. jap. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Sprawa Evy Evard" (Scenariusz na podstawie powieści Andrzeja Struga „Żółty krzyż" ( A. Hausbrandt). 21.10 „Gra Judith Jaimez (Wenezuela) — fortepian. 21.30 „Ex libris". 21.55 Dziennik. 22.10 Program na wtorek. 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka.

WTOREK 18.IV.

9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" (Patriotyzm). 10.30 „Iskra" — film fab. radz. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Ważniejsze zagadnienia związane z dziedziczeniem, użytkowaniem i obrotem ziemią". 15.20 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program publicystyczny. 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Iskra" — film fab. radz. 21.40 „Teatr i teatry" — rep. film. 22.10 Dziennik.

ŚRODA 19.IV.

9.40 „Sprawa jasnowidza Hanussena" — film czechosł. cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „W obronie mowy i ziemi". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Szkło". 13.40 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Galeria na medal", „Ludzie z różnych stron świata" — film. 17.30 „Praca — człowiek — dźwięk". 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Roman Kłosowski. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sprawa jasnowidza Hanussena" — film czechosł. cz. I. 21.15 „Świat i Polska". 21.50 „Ptaki i nimfy" („Muzyka i Architektura"). 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 20.IV.

8.15 Matematyka w szkole: „Aktywne utrwalanie materiału nauczania" cz. I. 15.50 Program dnia. 15.55 „Ekran z bratkiem". 16.45 Dziennik. 16.55 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Zw. Radziecki — Czechosłowacja. W I przerwie ok. 17.30 Magazyn ITP. W II przerwie ok. 18.15 TV Kurier Lubelski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20..00 Przypominamy, radzimy". 20.05 „Dwaj panowie bez parasola" — film fab. rum. 21.40 PKF. 21.50 „Refleksje". 22.20 Dziennik. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK 21.IV.

8.00 TV Kurs rolniczy: (dla zootechnika i agronoma) „Organizacja produkcji mleka w gromadzie". 9.20 „Madeline Bary" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „W fabryce domów". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Silnik spalinowy". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Szkło". 12.45 Dla szkół: (kl. II-III lic.) Przysposobienie obronne — „Zasady strzelania z broni małokalibrowej". 15.20 i 22.55 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 TV Kurier Mazowiecki. 18.10 „Kraj naszych przyjaciół" — turniej studencki. 19.05 „Sport, turystyka, wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Madeline Bary" — film ang. („Nicholas Nickleby"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV na świecie: „Przed burzą" wg sztuki M. Gorkiego „Ostatni" — spektakl TV radzieckiej. 22.35 Dziennik.

SOBOTA 22.IV.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Ochrona przyrody i środowiska". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków". 11.30 „Przygody Takalamaken" — film fab. jap. 14.30 Program dnia. 14.55 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Zw. Radziecki — Szwecja. W I przerwie ok. 15.30 Redakcja Szkolna zapowiada. W II przerwie ok. 16.15 Dziennik. 17.15 Teatr Młodego Widza: Scena Faktu — „Wrócę przed Wielkanocą" („Pamiętniki młodzieży"). 18.00 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc 19.30 Monitor. 20.15 „Przygody Takalamaken" — film fab. jap. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.30 „Canzionissima" program rozr. wł.

## Выстаўка беларускай кнігі ў Беластоку

Усесаюзнае таварыства «Міжнародная кніга» СССР і польскае прадпрыемства «Дом кнігі» сумесна арганізавалі міжнародную выстаўку беларускай кнігі ў Беластоку. Выстаўка адкрыта ад 11 па 23 красавіка гэтага года ў злучнікавай зале Ваяводскай камісіі прафсаюзаў (Sala łącznikowa WK Związków Zawodowych) вуліца М. Складоўскай-Кюры 3.

На густоўна аформленых стэлажах прадстаўлена каля 600 пазіцый грамадскай, навуковай і мастацкай літаратуры, выдадзенай у апошнія гады выдавецтвамі Беларускай ССР. Наведваючы выстаўку, можна не толькі пазнаёміцца з выдатнымі дасягненнямі беларускай паліграфіі, але і набыць карысныя выданні.

Выстаўка адкрыта штодзённа ад 10 гадзін раніцы да 18 гадзін вечара. Уваход бясплатны. Запрашаем!

Пачатак на стар. 1

# У БЕЛАСТОЦКІМ ПАВЕЦЕ

тарамі аб'яднання «Белавежа», што і эстрада ГП «Лявоніха» не забяспечвае запатрабавання на яе канцэрты. У Пяньках, як гаварыў Іван Азябла, яшчэ не выступала «Лявоніха» і не было аўтарскай сустрэчы. Затым Іван Азябла запрапанаваў, каб кожны член праўлення аддзела апекаваўся гуртком БГКТ, прыязджаў да яго і памагаў яму сваімі парадамі ў працы.

Першы сакратар павятовага камітэта партыі Іван Дзенісюк высока ацаніў дзейнасць БГКТ у Беластоцкім павеце. Гурткі БГКТ, іх праца, знаходзяць усебаковую падтрымку партыі. Заданнем партыйных арганізацый з'яўляецца апека над гурткамі, сістэматычная ацэнка іх дзейнасці.

— Калі будзе такая патрэба, — сказаў таварыш Дзенісюк, — склічам супольную нараду сакратароў партыйных арганізацый і старшынь гурткоў БГКТ з той мэтай, каб лепш развівалася культурна-асветная дзейнасць беларускага таварыства.

Старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі прысвяціў сваё выступленне статутовым заданням гурткоў БГКТ, асабліва іх ролі ў развіцці мастацкай самадзейнасці.

У дыскусіі выступілі таксама дэлегаты Антон Саковіч, Мікалай Краўчук, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў павятовай рады нарадовай тав. Казімір Залэнскі і прадстаўнік аддзела асветы Вацлаў Гаінскі.

Канферэнцыя выбрала новае праўленне, якое складаецца з 21 асобы, 3-асабовую рэвізійную камісію, 8 дэлегатаў на VII з'езд БГКТ і прыняла пастанову адносна далейшай дзейнасці БГКТ у Беластоцкім павеце.

Пасля з'езду адбыўся першы пленум праўлення аддзела, на якім быў выбраны прэзідыум аддзела ў наступным складзе: Янка Цялушэцкі — старшыня, Іван Фідзюкевіч — намеснік старшыні, Валя Філіпюк — сакратар і члены: Ніна Мушынская, Мікалай Міруць. Антон Саковіч і Зіна Лебядзінская. Рэвізійную камісію ўзначаліла Ніна Цыванюк. Членамі камісіі з'яўляюцца Янка Азябла і Хведар Садоўскі. (мх)

# МАЛАЧАРСКАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА Ў МІХАЛОВЕ

Малачарскае прадпрыемства ў Міхалове, Беластоцкага павету, пачало сваю дзейнасць у 1958 годзе. Раней маленькая малачарня знаходзілася ў прыватным памяшканні. Малако прымала яна ўсяго два разы ў тыдзень. Смятану адвіроўвалі тут уручную. Была ўсяго адна невялічкая цэнтрыфуга. З дзейнасцю новага малачарскага прадпрыемства знаёміў мяне кіраўнік прадпрыемства Мечыслаў Дамброўскі і яго намеснік Ёлянта Гузейка. Цяпер прадпрыемства перапрацоўвае ў сярэднім 30 тысяч літраў малака ў суткі, а ў летні перыяд нават 50 тысяч літраў. Малако мае ў сярэднім 3,5% тлушчу. Колькасць малака, як кажа кіраўнік Дамброўскі, пастаянна ўзрастае. А варта адзначыць, што ў міхалоўскай акрузе меліярацыяй не ахоплена яшчэ палавіны ўсіх сенажацяў і паш: на 3 470 га зямеліравана каля 1 400 га. Прадпрыемства зможа купіць усё малако ад сялян. Яно наступова мадэрнізуецца: уводзяцца больш прадукцыйныя машыны, па-сучаснаму механізуецца казеінярня, а на летні сезон будзе прыведзена ў дзеянне нават другая мотапомпа, каб без лішняй затрымкі, хутка пераліваць сырадой з кантэйнераў. У тым жа сезоне будзе дадаткова падключаны яшчэ адзін паравы кацёл у кацельнай. Зараз міхалоўская малачарня прадукуе штодзённа больш тоны першакласнага масла і 700—800 кілаграмаў казеіну.

Прадпрыемства мае 38 пунктаў скупкі малака, сярод якіх найлепш працуюць пункты ў самым Міхалове (вядзе яго А. Савіцкая), Новай Волі (М. Окштэль) і ў Пяньках (Ваўрэнюк). Новыя злеўні малака будуць пабудаваны ў Залешанах і Бяндзюзе. Варта адзначыць, што многія пункты скупкі малака займаюцца таксама продажам гатовых малочных вырабаў, як масла і сыркі. Сяляне ахвотна іх купляюць.

Адзін з рабочых малачарні пахваліўся мне на развітанне, што палепшыліся ў іх сацыяльныя ўмовы. На прадпрыемстве абсталявана раздзявальня і клуб з тэлевізарам. Апрача таго для ўсіх 22 рабочых наладжана харчаванне.

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*



*Кіраўнік прадпрыемства М. Дамброўскі.*



*На пляцы перад малачарняй.*

# НА "НІЧЫЕЙ" ЗЯМЛІ



Сельскагаспадарчых прадуктаў трэба нам усё больш. Таму гаспадарыць зямлёю неабходна правільна і ашчадна. На Беласточчыне мала ёсць добрых зямельных угоддзяў. Затое запас малаўраджайнай зямлі даволі вялікі. Больш 72 тысяч гектараў. Штогод прыбывае нам аблогаў. Пераймае іх дзяржава, утвараючы дзяржаўны фонд зямлі (ПФЗ). Пакінутыя зямельныя ўгоддзі зараз пачалі ўсё больш загаспадароўваць ПГР-ы, МБМ-ы, сельскагаспадарчыя гурткі і сяляне - аднаасобнікі. Найбольш «нічыёй зямлі» загаспадарылі ПГР-ы і сельскагаспадарчыя гурткі. Сельскагаспадарчыя гурткі пераналі яе 10 тысяч га, а ПГР-ы — 22 тысячы га. Сеюць яны на іх збожжавыя культуры, разводзяць жывёлагадоўлю і г.д. Найгоршыя землі прызначаюцца пад пасадку лесу. Новай формай з'яўляецца выкарыстанне зямельных угоддзяў ПФЗ з мэтай развіцця калектыўнай гадоўлі свіней, авечак і цялят. Свіней упершыню пачаў гадаваць сельскагаспадарчы гурток у Камёнцы (Беластоцкі павет), які ў адрамантаваным будынку адкормлівае зараз па 260 штук свіней. У бягучым годзе ўсе беластоцкія сельскагаспадарчыя гурткі гадуюць каля 5 тысяч свіней. МБМ у Саках (Гайнаўскі павет) займаецца гадоўляй авечак, якіх мае каля 100 штук. Такіх МБМ ёсць больш. Зямельныя ўгоддзі ПФЗ зараз шырока загаспадараны пад такія расліны, як жыта, авёс, пшаніца, ячмень і лубін. Гайнаўскія сельгасгурткі сеялі збожжавыя культуры на больш чымсьці 1000 га. Атрымалі яны ў сярэднім ураджай па 20 і больш цэнтнераў з аднаго гектара. Сельгасгурткі са Ставішчаў, Іванкаў, Сакоў, Дубічаў і Навасадаў у сярэднім загаспадарылі па 100—300 гектараў. На Бельшчыне сельгасгурткі і МБМ-ы карыстаюцца больш чым 600 га ўгоддзяў, перададзеных ім з ПФЗ. Толькі адзін МБМ у Багданках (Беластоцкі павет), які вядзе самастойную гаспадарку на 100 га дзяржаўнага фонду зямлі, у мінулым годзе прадаў дзяржаве больш 100 тон збожжа. Справа загаспадарання «нічыёй зямлі» сельскагаспадарчымі гурткамі і МБМ-амі вельмі важная. Гаспадарка на «нічыіх» гектарах дае дадатковыя сотні тон зерня і мяса. Важна пры гэтым тое, каб зямлю ў карыстанне аддаваць арганізацыйна і эканамічна моцным сельгасгурткам. Яны ж у першую чаргу павінны задбаць аб сваіх ураджаях, каб не было так, што няма каму касіць пераспелае збожжа або выкапаць бульбу яшчэ перад марозамі. Карыснай з'явай з'яўляецца тое, што ўсе сельгасгурткі, якія маюць значныя даходы, зараз выкарыстоўваюць іх на агульнаграмадскія мэты. Напрыклад, на падтрымку грамадскіх чынаў або на дафінансаванне глыбінных (артэзіянскіх) студняў і г.д. Некаторыя сельгасгурткі ўсю сваю зямельную плошчу адводзяць пад доследныя палеткі. З гэтых доследаў карыстаюцца ўсе: і сельгасгуртkоўцы і мясцовыя аднаасобныя гаспадары. Новым пры загаспадаранні зямельных угоддзяў ПФЗ з'яўляецца той факт, што зараз тыя сельгасгурткі, якія будуць мець арэал не меншы чымсьці 150 га, атрымаюць штат агранома.

*Я. Цялушэцкі*

**Беларуская літаратура** — **Аляксандар Баршчэўскі**

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## ТАРАС НА ПАРНАСЕ — ЧАСТКА II.

Хто напісаў «Тараса на Парнасе» — не ведаем. Даследчыкі М. Доўнар-Запольскі, Я. Раманаў, Я. Карскі, М. Гарэцкі, Р. Зямковіч «Тараса на Парнасе» прыпісваюць Дуніну-Марцінкевічу, Равінскаму, Вярыгу-Дарэўскаму, студэнтам Горацкага інстытута. Яшчэ іншыя называюць другія прозвішчы. Ніхто аднак пераканаўча не даказаў сваёй рацыі. І так да сёння не ведаем, якому аўтару належыць паэма.

Пяройдзем да кароткай характарыстыкі твора. Аўтар у першых радках свайго твора звяртаецца да чытачоў («братцаў») з пытаннем, ці нехта з іх ведае палясоўшчыка Тараса. Далей ідзе характарыстыка Тараса як дасканалага ахоўвальніка панскага лесу і добрага паляўнічага. У часе палявання на цецерукі, на Тараса напёр мядзведзь. Тарас, уцякаючы, праваліўся ў яму і такім чынам аказаўся ў іншым свеце. Было гэта падножжа старажытнай гары Парнас — сядзібы багоў і паэтаў. У сувязі з тым, што на гару ішло многа народу, Тарас таксама пайшоў уверх. Пайшоўшы на гару і аказаўшыся на ёй, Тарас назірае за падзеямі і дакладна расказвае аб іх. Спачатку апавядае аб пісьменніках, якія імкнуцца трапіць на Парнас, пасля аб паводзінах багоў на Парнасе. Тарас становіцца не толькі назіральнікам, але і ўдзельнікам парнасаўскіх падзей. Пускаецца ў танцы, п'е і есць удоваль, нарэшце, нейкім таемным спосабам пераносіцца ў лес і ў сваю хату.

Як бачым, сюжэт паэмы нескладаны. У нейкай ступені нагадвае ён «Энеіду навыварат». І там і тут старажытнасць, і там і тут багі, і там і тут дзейнасць героя адбываецца ў сялянскіх умовах жыцця. Таму, мабыць, некаторыя даследчыкі абодва гэтыя творы прыпісвалі аднаму аўтару. Аднак у паэмах ёсць многа рознага. Перш за ўсё, у «Тарасе на Парнасе» выступаюць постаці многіх рускіх і польскіх пісьменнікаў, а таксама галоўны персанаж сялянскага паходжання — Тарас. Гэтага ў «Энеідзе» не было. Калі была напісана паэма? Не ведаем. Аднак здаецца, што пазней, чым «Энеіда». Можна думаць, што аўтар «Тараса на Парнасе» ведаў змест «Энеіды» і выкарыстаў у сваім творы некаторыя яе элементы. У цэлым аднак «Тарас на Парнасе» — твор арыгінальны і непаўторны.

Вернемся да зместу. Мы ўжо сказалі, што ў «Тарасе на Парнасе» выступаюць рэальныя постаці. Адносіцца гэта перш за ўсё да пісьменнікаў. У залежнасці ад версіі паэмы, у яе змесце гаворыцца аб толькі рускіх пісьменніках або аб рускіх і польскіх. Аўтар твора называе прозвішчы Пушкіна, Лермантава, Жукоўскага і Гогаля, якія ідуць на Парнас. У іншай рэдакцыі гаворыцца аб Міцкевічу, Пушкіне, Кахаnоўскім і Гогалю. Зрэшты, гэтыя розніцы не маюць істотнага значэння. Галоўнае заключаецца ў тым, што пісьменнікаў гэтых, рускіх або рускіх і польскіх, супрацьпастаўляе аўтар рэакцыйнаму літаратару Булгарыну. У сувязі з тым, што большасць нашых чытачоў, мабыць, не ведае, кім быў Тадэуш Булгарын, выясняем, што быў ён польскім памешчыкам у Беларусі. Першапачаткова адзначаўся грамадскім радыкалізмам, супрацоўнічаў з дзекабрыстамі — Рылеевым і Бестужавым, ведаў дэмакратычнага пісьменніка Грыбаедава. Пасля разгрому дзекабрыстаў прыйшоў да вываду, што намнога лепш зробіць, калі аддасць свае эмоцыі і сваё пяро на службу рускаму трону. Булгарын разам з Грэчам пачаў выдаваць рэакцыйныя часопісы «Северная пчела» і «Сын отечества», пісаў таксама раманы і займаўся публіцыстыкай. Як кожны рэнегат, хацеў даказаць сваю вернасць чужой нацыі. Пісаў у вернападданчым, сервілістычным духу. Верна служыў рускім царам. Нападаў на дэмакратычных пісьменнікаў: на Пушкіна, Гогаля, Міцкевіча. Займаўся даносамі, меў вялікія намеры і належна подленькае сэрца. Пушкін не заставаўся ў даўгу перад Булгарыным, пісаў на яго эпіграмы. Вось адна з іх:

«Не ў тым бяда, што ты паляк,
Міцкевіч — лях, Касцюшка — лях,
А будзь сабе ты хоць татарын,
Бяда у тым, што ты — Булгарын».

Аўтар «Тараса на Парнасе» ведаў несумненна ролю Булгарына ў тагачасным літаратурным жыцці і заатакаваў яго ў сваёй паэме. Зрэшты, не называе Булгарына па прозвішчу, гаворыць аднак аб рэдактары «Пчалы», які мітусіцца паміж літаратурнымі велікaнамі і пагражае ім, што калі яны яго не прапусцяць на Парнас, дык аблае іх у сваім часопісе так, як рабіў гэта ўжо ў адносінах да Гогаля.

Няма сумненняў, што постаць Булгарына мае тут карыкатуральны характар. Аўтар адносіцца да яе адмоўна. Яго сімпатыі на баку дэмакратычных самастойных пісьменнікаў, а не паслугачоў пануючай, афіцыйнай, дзяржаўнай ідэалогіі.

Другой характэрнай рысай паэмы з'яўляецца трактоўка постацяў багоў. У трактоўцы гэтай маем несумненна дачыненне з скарыноўскім падыходам да святасцей і міфаў. Багі прадстаўлены тут як звычайныя сяляне. Магутны Зеўс, у гонар якога складзены былі ў старажытны перыяд сотні гімнаў, у беларускай паэме ляжыць, падклаўшы сабе пад галаву сярмягу і шукае ў барадзе рабацтва. Сатурн размачыў лыка і

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ



# ВОПЫТНЫ ПЕДАГОГ

На сцяне калідора старанна выкананы па-беларуску лозунг «Яднае нас дружба і праца». Пад ім у часе перапынку меншыя школьнікі гуляюць у «рольніка» і «кашку». Старэйшыя жа, выпрасіўшы ў настаўніцы фізкультуры валейбольны мяч, бягуць на спартыўную пляцоўку, бо надвор'е ўжо цёплае.

Пані Валянціна Сідарук назірае за школьнікамі і расказвае. Можа нават трохі скупавата гаворыць аб сваім працавітым 22-гадовым настаўнічанні ў школах Бельшчыны. Тут, у Войшках, яна працуе ўжо 6 год. Вучыць у асноўным беларускай мове ад 3-га да 8-га класа ўключна. Падрыхтоўку да гэтага мае адпаведную: у 1960 годзе закончыла беларускую філалогію ў Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, а ў наступным годзе ездзіла на курс настаўнікаў у Мінск. Педагагічны вопыт прыйшоў разам з гадамі працы ў школе.

В. Сідарук карыстаецца ў школе і сваёй мясцовасці аўтарытэтам, а вучні яе проста любяць, любяць і прадмет, які яна выкладае. Яна ніколі не абмяжоўваецца толькі да падручніка. На ўроках роднай мовы тут часта бывае бібліятэчная цікавая кніга, часопісы, газеты. У школьнай бібліятэцы ўсяго 364 кнігі на беларускай мове, але чытальніцтва іх нядрэннае. У год старэйшыя школьнікі іх прачытваюць на асобу сама меней па 10, а малодшыя — па 30. Вучні рэгулярна выпісваюць «Ніву» з «Зоркай». На ўроках беларускай мовы ад 1-га да 6-га класа настаўнікі тут выкарыстоўваюць «Зорку», а ў старэйшых класах — выбраныя матэрыялы з «Нівы». У школу ў Войшкі па падпісцы прыходзіць 11 экземпляраў «Вясёлкі» (для III—IV класаў) і 13 экземпляраў «Бярозкі» (для V—VIII класаў). В. Сідарук з гэтых часопісаў выкарыстоўвае для занятак на ўроках і ў пазакласным чытанні артыкулы, апавяданні, вершы. І вядома, як заўсёды, найбольшай папулярнасцю карыстаюцца сярод вучняў прыгодніцкія апавяданні.

Спрыяльная для вучобы, працавітая атмасфера пануе ва ўсёй школе. Усе вучні, а іх тут 82, вывучаюць беларускую мову. (мг)

# Настаўнікам

Няма прыгажэйшай прафесіі ў свеце за прафесію настаўніка — так пісаў савецкі педагог А. Макарэнка. Настаўнік — гэта каваль людскіх душ, які ўводзіць маладое пакаленне ў жыццё. У сувязі з тым прафесія настаўніка, як рэдка якая, патрабуе сталага здабывання новых ведаў, падвышэння сваіх кваліфікацый.

Многія з настаўнікаў нашага ваяводства вучацца завочна. Іншыя пашыраюць свае веды шляхам самаадукацыі. Насустрач настаўнікам выходзяць педагагічныя бібліятэкі, якія знаходзяцца ў кожным павятовым горадзе.

Аднымі з лепш дзейнічаючых педагагічных бібліятэк з'яўляюцца бібліятэкі ў Бельску, Гайнаўцы і Сямяцічах. Бібліятэкаркі даходзяць з педагагічнай кніжкай амаль да кожнага настаўніка. Яны прымаюць актыўны ўдзел у канферэнцыях настаўнікаў, дзе прапагуюць выдавецкія навінкі. А новых кніжак тут не бракуе. Апрача кніжак з педагогікі, камплектуюцца таксама кніжкі з папулярна-навуковай літаратуры і белетрыстыкі. Аб гэтым сведчаць сумы грошай, прызнаных на гэтую мэту для бібліятэк. І так, у 1971 годзе на закупку кніжак і падпіску часопісаў у Бельску выдадзена 29 тысяч зл., у Гайнаўцы — 41 тысяча зл. і ў Сямяцічах 32 тысячы зл. Таму ўжо на дзень 31 снежня 1971 г. педагагічная бібліятэка ў Бельску налічвала 7720 тамоў, у Гайнаўцы — 7907 тамоў і ў Сямяцічах — 10225 тамоў. Папулярнымі ў мінулым годзе былі ў гэтых бібліятэках наступныя кніжкі:

**Kupisiewicz Cz. Niepowodzenia dydaktyczne.**
**Okoń W. U podstaw problemowego uczenia się.**
**Rudniański J. Metody pracy umysłowej ucznia.**
**Semenowicz H. Nowoczesna szkoła francuska technik Freineta.**

Аб тым, якім вялікім попытам цешыцца педагагічная кніжка, сведчыць колькасць кніжак, прачытаных у 1971 годзе. На аднаго настаўніка ў Бельскім павеце выпала 9,8 кніжкі, у Гайнаўскім — 10,7 кніжкі і Сямяціцкім — 9,3 кніжкі.

Праца педагагічных бібліятэк не абмяжоўваецца толькі прапагандай і выпазычэннем кніжак. Бібліятэкі вядуць культурна-асветную работу. Арганізуюць спатканні настаўнікаў з людзьмі навукі і пісьменнікамі. Часта ў бібліятэцы пры «малой чорнай» вядуцца дыскусіі над цікавымі кніжкамі.

Педагагічныя павятовыя бібліятэкі ўтрымоўваюць сталы кантакт з ваяводскай педагагічнай бібліятэкай у Беластоку. Таму настаўнік з найдалейшых вёсак у Гайнаўскім ці Сямяціцкім паветах можа атрымаць кніжку не толькі з навуковых бібліятэк у Польшчы, але і з Савецкага Саюза.

*Юрка Кузьмюк*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р




### СЯМЕЙНАЯ

*Ой, дай Божэ нідзелькі прыждаці,*
*То я пайду да роду гуляці.*
*Будзе племе-радок частаваці —*
*Я ні буду споўна выпіваці.*
*Я й ні буду споўна выпіваці:*
*Ест у мэне тры беданькі ў хаці.*
*Перша беда — дзеціна малая,*
*Друга беда — свекруха ліхая,*
*Трэйця беда — вон мэне ні любіт,*
*Трэйця беда — вон мэне ні любіт.*
*Ой, пайду ж я ціха пад акенко,*
*І забачу, што свекруха робіт.*
*А свекруха вечэрэньку варыт,*
*А свекерко дубінаньку парыт,*
*А мой мілы дробны лісцік пішэ*
*І ножкаю дзеціну калышэ:*
*— Люлі, люлі, дзіціна малая,*
*Дзесь гуляе жонка маладая.*
*Ой ты, маці — парадніца ў хаці,*
*Парадзь, парадзь: чым жонку караці.*
*— Вазьмі, сынку, нагайку сырую —*
*Пакар, пакар жонку маладую.*
*— Ой ты, маці — парадніца ў хаці,*
*Парадзь, парадзь: дзе ж ее схаваці?*
*— Завазі, сынку, у чыстэе поле —*
*Ніхай вана пшэнічэньку поле.*
*А як паехаў пшаніцу прадаваці,*
*Узналі ўсе швагрэ і будут пытаці:*
*— Ой ты, швагрэ,*
*швагрэ-швагруленьку,*
*Ой, дзе падзеў сестру Ганулленьку?*
*— Завёз ее ў чыстэе поле —*
*То там вана пшэнічэньку поле.*

### ХРЭСБІННАЯ




*Дзеўчынэнько-кветко, чэму радно рэдко?*
*Ні хацела прыбіваць, коб ні было душно спаць.*
*Дзеўчынэнько-серцо, атвары акенцо,*
*Пусці мэне пад радно, бо мне ў ножкі халадно.*

### ЛІРЫЧНАЯ



*Зялёны дубочак, шырокі лісточак.*
*Ні бачыла кавалера вжэ трэці дзенёчок.*
*Адзін — панідзелок, а другі — аўторок.*
*Не думалось моладзенькой, што дзенёчкоў — сорок.*
*Не здавалась моладзенькой, што дзенёчкоў — сорок.*

Ад Марыі Гайдук 1908 года нараджэння хутар Полымя, вёска Тарнопаль, Гайнаўскага павету запісаў 25 лютага 1972 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.



НА ПУНКЦЕ СКУПКІ Ў НАРАЎЦЫ

Цяпер змадэрнізаваны ўсе пункты скупкі ў Гайнаўскім павеце. Мы наведалі адзін з такіх пунктаў скупкі, у Нараўцы. Было гэта ў чацвер. На месцы засталі мы кіраўніка пункта Міхася Бароўскага, класіфікатара Рыгора Тышкевіча, ветэрынара Міраслава Бароўскага і іншых рабочых. Здзівіла нас трохі малая чарга сялянскіх фурманак.

— Чаму малая? — перапытвае кіраўнік Бароўскі. — Сёння абслужылі мы ўжо 34 сялян. Купілі 29 вепрукоў і 5 цялят. Спадзяемся каля 80 наведвальнікаў, бо столькі паведаміла нам аб сёняшняй дастаўцы. Цяпер не можа быць у нас вялікай чаргі, бо тэрміны дастаўкі жывёлы вядомы нам раней, і мы на адзін раз выражаем згоду абслужыць 100 сялян. А з такім лікам сялян у нас чаргі не будзе. Наш пункт скупкі мае зараз новыя абаротныя рампы, што намнога аблягчае нам працу. Сяляне-наведвальнікі атрымалі ў карыстанне новую пачакальню. Неўзабаве на месцы будзе таксама каса. Тады селянін прадасць у нас жывёлу і адразу атрымае за яе грошы.

*Тэкст і фота: (ЦЯ)*



# Актыўны сельгасгурток

Адным з актыўнейшых сельскагаспадарчых гурткоў на Гайнаўшчыне з'яўляецца гурток у Палічнай. Найбольш увагі яго працы прысвячае дыспетчар Юрка Зіньчук, які гэтую функцыю выконвае ўжо тры гады. Палічнаўскі сельскагаспадарчы гурток багаты сельскагаспадарчымі машынамі. Мае ён 8 трактараў з камплектамі прычэпных машын, 4 абмалотачныя агрэгаты, па некалькі касілак, бульбакапалак, раскідвачаў, сеўнікаў і іншых машын. У гэтым годзе сельгасгурткоўцы намераны купіць яшчэ адзін новы трактар і тры касілкі. Найбольш сялян карыстаецца «кулковымі» сельскагаспадарчымі машынамі пры ворцы, сеянні і абмалотах. Палічнаўскія сельгасгурткоўцы завялі гаспадарку на 216 гектарах дзяржаўнага фонду зямлі (ПФЗ). Найбольш сеялі яны жыта, а зараз намераны садзіць яшчэ бульбу і сеяць лубін. У адрамантаванай спулдзельчай аборы задумалі яны гадаваць 250 свіней. Дапамагаюць сельгасгурткоўцы таксама пры пабудове дарогі ў напрамку Кляшчэляў і закладцы доследных гадавальнікаў дрэўцаў у надлясніцтве. Праўленне «кулка» намагаецца ўсе дробныя рамонты сельскагаспадарчых машын праводзіць у сябе на месцы. Маюць яны таленавітага і вопытнага каваля Мікалая Ігнацюка, які патрапіць адрамантаваць кожную «кулковую» машыну. У кузні ў яго ёсць нават зварачны апарат. Зараз плугі і ўсе іншыя машыны гатовы да веснавой працы ў полі. Палічнаўскія сельгасгурткоўцы карыстаюцца таксама ўласным млынком-драбілкай, які абслугоўвае Янка Каравай. Варта адзначыць, што сельгасгурток у Палічнай меў за мінулы год больш 36 тысяч злотых чыстага даходу і што неўзабаве пачне тут будавацца павец на мінеральныя ўгнаенні. (ЦЯ)

пляце лапці. Амур рвецца да дзяўчат, Венера танцуе беларускі танец мяцеліцу, Бахус напіўся праз меру і вядзе непрыстойныя анекдоты, ад якіх сорамна робіцца дзяўчатам.

Усё на Парнасе беларускае: і вопраткі, і стравы, і танцы, і гутарка, і звычаі. А ў сувязі з тым, што ў XIX ст. беларускім было толькі сялянскае, дык усё ў паэме з'яўляецца сялянскім. Ці значыць гэта, што паэма была напісана кімсьці з сялян? Напэўна, не! Паэма нарадзілася ў шляхецкім, адукаваным асяроддзі. Сведчаць аб гэтым і тыпы старажытных герояў, і закранутыя ў паэме літаратурныя праблемы, якія не цікавілі тагачаснага селяніна. З гэтай справай звязана таксама праблема ідэйнасці твора. Літаратуразнаўца Патуховіч бачыць у творы «выражэнне шляхецка-класавай псіхалогіі», некаторыя з сучасных даследчыкаў схільныя ў паэме бачыць паслядоўную народнасць і дэмакратызм. Па чыім баку праўда? Мабыць, як гэта часта бывае пры крайне працілеглых думках — пасярэдзіне. Праўдападобна, аўтар, ідучы шляхецкай традыцыяй, выкарыстаў постаць селяніна, каб паказаць высокія матэрыі ў сялянскім наіўным успрыняцці, але рашуча адступіў ад частага ў мінулым звычаю кампраметацыі сялянскай постаці. Нават наадварот, надзяліў Тараса здольнасцю назіральніцтва, ацэнак, захавання, паводзін, якія прыносяць гонар звычайнаму чалавеку, а тым самым і беларускай нацыі.

